Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 1 студзеня 1933 г.



# РОДНЫ КРАЙ

№ I.

Год 1-шы.

выходзіць двойчы ў месяц.

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12. Прыймо інтэрэсантаў у буднія дні ад 10 да 12 г. раніцай.

Падпіска з дастаўкай поштай: За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.; за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

# Т. Б. А.

Гэтыя тры літары абазначаюць скарочаны назоў новага беларускага культурна-прасьветнага Т-ва, статут якога ўрэшце зацьверджаны у канцы сьнежня 1932 г. Поўны назоў яго: **Таварыства Беларускае Асьветы.**

Нашае грамадзянства—з увагі на агульную нездаровую атмосфэру ў Зах. Беларусі—прывыкла да кожнае нова-запачаткаванае справы падыходзіць з партыйна-палітычнай меркай. Зара задаецца пытаньне: а якая палітычная партыя ці група распачынае тут працу? Якія ў ініцыятараў палітычныя мэты? І толькі на другім месцы стаіць пытаньне: а што-ж мае быць роблена?

Мусім расчараваць тых, хто гэтак падойдзе да ТБА. Ніякіх спэцыяльных палітычных мэтаў мы сабе не стаўляем, а ўся наша „палітыка"—будзіць беларускія масы да нацыянальнага адраджэньня, падыймаць іх культурны ровень. Мы думаем, што ў гэтай галіне беларускае культурна-нацыянальнае працы ўсе беларускія палітычныя групы ідуць адным шляхам. Дый інакш быць ня можа. Але мы ў сваёй працы ня хочам і ня будзем служыць вузкім палітычным мэтам тае ці іншае партыі: культурна-асьветная праца ёсьць цэннасьць сама ў сабе, ёсьць той фундамант, без якога беларусы ня могуць удатна бараніць ані сваіх нацыянальных, ані палітычных, ані соцыяльных правоў і інтарэсаў. Гэты фундамант, будаваньне якога было распачата 25 гадоў таму назад „Нашай Нівай", мы будзем далей будаваць і ўмацняць.

* * *

Т. Б. А., далёкая ад палітыкі, ня будзе гнацца за заваяваньнем палітычных уплываў на шырокія масы. Нашае заданьне—вышуківаць на вёсцы адпаведныя да культурна-прасьветнае працы сілы і арганізоўваць невялічкія групы—гурткі—здольных да актыўнае працы людзей, якія былі-б ініцыятарамі і кіраўнікамі беларускае працы на чыста культурным фроньце. Вось тыя заданьні, якія — згодна з сваім статутам — будзе выпаўняць Т. Б. А. і ягоныя гурткі.

Першая і найлягчэйшая задача — сабраць у вёсцы або мястэчку пяць асоб і заклaсьці гурток ТБА. Ведама, трэба пашукаць людзей, якія разумеюць падставовае значэньне культурнае працы для ўсяго нашага грамадзкага жыцьця. Маючы гурток, закладайце бібліатэчку-чытальню, каб даць вёсцы кніжку, купляць якую пры сучасным крызісе мала хто можа. А далей—трэба зладзіць ці то драматычную дружыну, ці сьпявацкі хор,—і вось можна ўжо будзе ладзіць вечарыны. Але не дзеля пустое забавы: перад вечарынай можна й нейкую лекцыю прачытаць—ці то каму з мясцовых людзей, ці запрошанаму з Вільні лектару. Дый наагул трэба ладзіць такія лекцыі незалежна ад вечарын, а то і проста чытаць грамадой кніжкі або газэты беларускія, а пасьля абменівацца думкамі аб прачытаным. І прыемна гэта, і карысна. Яшчэ больш карысна арганізаваць барацьбу з беларускай няпісьменнасьцяй. Цяпер дзеці, якія вучацца ў польскіх школах, ня ўмеюць чытаць пасвоему—пабеларуску, бо тамака іх гэтага ня вучаць. Сябры ТБА дый усе сьвядомыя беларусы хай займуцца навучаньнем школьнікаў (ня школьнікаў (ня шкодзіць—і людзей старэйшых, калі яны няграматныя) чытаць і пісаць у роднай мове. Урэшце, трэба разьвіваць грамадзкую самадзейнасьць на эканамічна-гаспадарчым груньце: трэба прывучаць людзей да коопэрацыі — гандлёвае і вытворчае. І тут гурток павінен быць ініцыятарам такое працы. А яшчэ лягчэй праводзіць думку аб неабходнасьці солідарнае працы ўсіх радных-беларусаў на груньце самаўрадаў—гмінных і павятовых.

Як бачым, шырокі простор да працы маюць нашыя гурткі. Хай жа бяруцца за гэту працу!

* * *

Гуртуючы беларускія сілы, мы будзем дзяржацца старога клічу Бацькі адраджэньня братняга нам Украінскага народу, Тараса Шэвчэнка: „І чужога навучайцеся, і свайго ня цурайцеся". Навокал нас жывуць іншыя народы, якія далёка апярэдзілі нас у сваім культурна-нацыянальным разьвіцьці і выпрацавалі сабе найпрактычнейшыя спосабы аба-





роны сваей нацыянальнай душы. Церністы шлях барацьбы за сваё нацыянальнае „я“ прайшлі паляні, пакуль дайшлі да такое бліскучае перамогі над нясумерна дужэйшымі за іх ворагамі: то-ж тры вялізарныя дзяржавы панавалі над польскім народам бязмалага паўтараста гадоў! А літвіны, а украінцы, а жыды — ці-ж з іх жыцьцёвае практыкі мы так-такі нічога скарыстаць ня можам? Дый ці-ж мала культурных скарбаў можам запазычыць мы з культурнае скарбніцы іншых народаў?—Дык вось, разьвіваючы нашу ўласную культуру, мы можам і павінны знаёміцца з культурай і нашых суседзяў на супольнай тэрыторыі: толькі тады, як пазнаем асаблівасьці чужых культур, мы здолеем найлепей ацаніць вартасьць і хараст珍 ўласнае культуры, навучымся паважаць і любіць наш родны Край.

* * *

Дык да працы, браты! Дзе ёсьць ахвочыя адзінкі, а няма йшчэ арганізацыі, тварыце гурткі ТБА. На вялізарным прасторы Заходняе Беларусі толькі дзе-не-дзе наладжана культурная работа беларускіх арганізацыяў. Дык мы нікому перашкаджаць ня будзем: мейсца хопіць для ўсіх!

Беларускі адраджэнскі рух дайшоў ужо да тае ступені свайго разьвіцьця, калі не адзінкі прамаўляюць за свой прыспаны ад вякоў народ, а сама маса гаворыць за сябе. Але маса мусіць стаяць на поўным культурным роўні, мусіць умець да ўсяго падыходзіць сьвядома, з крытычнай ацэнай, што для яе добра, карысна, а што—блага, шкодна. ТБА і павінна падыймаць народную культуру, і яно на гэтым шляху найлепш заслужыцца перад Беларускім Народам.

---

# Дзіця і маці.

Толькі-што выйшла ў польскай мове цікаўная кніжачка М. Брандштэттэра пад назовам: „Z doświadczeń rodziców i nauczycieli“ („З практыкі бацькоў і настаўнікаў“). З увагі на тое, што ў нас педагогічнай літаратуры блізу няма (журнал „Сям'я і школа“ пасьля двух вельмі цікаўных нумароў замёр), мы павінны знаёміцца з тым, што ў гэтай галіне пішуць другія. А ў названай кніжачцы шмат ёсьць такога, што павінны добра абдумаць бацькі, гадуючыя сваіх дзяцей,—і мы да яе йшчэ будзем зварачацца. Цяпер падаем кароценькі адрывак аб ролі маткі ў узгадаваньні дзіцяці.

„У ўзгадаваньні дзіцяці, — кажа аўтар зусім слушна,—матка адыгрывае галоўную ролю. Ад мамэнту, калі дзіця адрываецца ад яе ўлоньня, маці пільнуе яго і гадуе, як агароднік кветку, як мастак свой твор. Толькі памалу аслабляецца сувязь, якая злучае матку й дзіця, гэныя дзьве істоты, каторыя нядаўна складалі адну. І ў меру таго, як дзіця робіцца самастойным, яно падпадае пад узгадаваўчы ўплыў іншых асобаў: бацькі, старэйшых дзяцей, людзей, што яго акружаюць. Але заўсёды—ў першыя гады жыцьця дзіцяці—кіраўніцай яго ёсьць маці, хаця дзеля таго, што найбольш з ім бывае разам. А якраз наймаладзейшыя гады дзіцяці вырашаюць пытаньне аб ягоным характары. Чаго мы зробім у гэтым пэрыядзе, або што зробім блага, тое рэдка ўжо можна пасьля паправіць. Душа дзіцячая напачатку гэткая-ж гібкая і падатлівая, як чэрап нованароджанага, і яе йшчэ можна кшталтаваць. У ёй крыюцца вялізарныя магчымасьці. А „ўзгадаваць“—гэта-ж ёсьць: з існуючых магчымасьцяй выдабыць найвялікшыя цэннасьці.

„Гэтая падатлівасьць дзіцячае душы з ростам дзіцяці зьмяншаецца. Шасьцёх-ці сямёх-гадовае дзіця, пераступаючы праз парог школы, мае ўжо ў сабе некаторыя ўласьцівасьці ды рысы, і зрабіць істотную зьмену ў ягоным характары ў поўным кірунку могуць толькі найвыдатнейшыя ўзгадавальнікі або вельмі ўплывовыя таварышы. У пэрыядзе палавога дасьпяваньня адбываецца канчальнае кшталтаваньне характару; а, прыкладам, дванаццацёхгадовы дзяцюк — шмат з якога гледзішча—ужо гатовы,

„Але—фундамэнт заўсёды закладала маці. Што ўкшталтавала яе любоў і руплівасьць, як была йшчэ валадаркай падатлівае душы свайго дзіцяці, тое звычайнае бывае рашаючым чыньнікам у-ва ўсенькім далейшым жыцьці. Гэтак маці—першая ўзгадавальніца—займае найважнейшае становішча і выпаўняе найбольш адказную ролю“.

Ці гэтыя зусім слушныя ўвагі аўтара названае кніжкі не павінны прымусіць кожнага і кожную з нас задумацца над пытаньнем: а ці наша беларуская маці мае адпаведную падгатоўку дзеля выпаўненьня такое адказнае ролі? Ці ж не ад маткі залежыць гэтак і лёс ўсяго народу нашага?

Бясспрэчна, што на абодва пытаньні прыходзіцца адказаць: так. А з гэтага ўжо просты і явны вывад: калі духовае разьвіцьцё нашае мужчынскае моладзі важна й неабходна для нашае сучаснасьці, дык духовае разьвіцьцё дзяўчат—будучых матак—мае падвойнае значэньне: і для сягоньняшняга

---

## Як перасылаць грошы за газэту.

Гэтым паведамляем нашых падпісчыкаў, што яны могуць перасылаць належныя нам грошы за газэту гэтакім спосабам: 1) купіць на пошце бланк для пераказу на рахунак П. К. О., які каштуе толькі **5 гр.**, 2) запоўніць яго, як належа, упісаўшы адрас беларускае кнігарні Ул. Манкевіча (**Księgarnia Białoruska Wł. Mankiewicza, Wilno, Ostrobramska 1**) і нумар конта **61991**, 3) на адвароце часткі бланку „dla adresata“ напісаць: „За газэту“— і 4) бясплатна здаць разам з бланкам пасыланую суму на пошце.

дзя, бо-ж яны так сама сяброўкі нашага грамадзянства, і для таго пакаленьня народу, якое яны некалі ўзгадуюць.

Далейшыя вывады з гэтага ясныя: значыцца, трэба асаблівую ўвагу зварачаць на культурную працу сярод беларускіх дзяўчат і жанок. Трэба, каб яны не аставаліся збоку ад культурнае працы, але каб ішлі поруч ці навет наперадзе мужчын. Трэба, каб бацькі, якія—праз дурную традыцыю — часта яшчэ неахвотна аддаюць сваіх дачок у навуку, ведалі цьвёрда: тое, што здабудзе ў школе дачка, яна аддасьць унукам.

Праца сярод дзяўчат і жанок мусіць заняць у нашым грамадзкім жыцьці найбольш пачэснае мейсца. Вызваленьне жанчыны спад улады благіх перажыткаў жудаснае мінуўшчыны яе, вызваленьне ад векавечных забабонаў — гэта адна з найважнейшых спраў, і да яе мы часта будзем варачацца.

Пэдагог.

## Бацькі!

## Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!

# Адозва да бацькоў.

*Паважаныя Грамадзяне!*

Пасьля пераходу прыватнае Віленскае Беларускае Гімназіі ў дзяржаўныя рукі і ператварэньня яе ў філію (аддзел) Дзяржаўнае Гімназіі імя Ю. Славацкага справа аплаты за навуку дзяцей значна зьмянілася. Раней бяднейшых дзяцей Пэдагогічная Рада Гімназіі магла неабмежана звальняць ад платы— ці то зусім, ці часткова, вызначаючы каму палову, каму чвэртку і г. д. Цяпер згодна з існуючымі ў дзяржаўных гімназіях правіламі лічба звольненых ад платы вучняў вельмі абмежана (ня больш за 10 прац.), а іншым вучням—таксама ў абмежанай лічбе—плата можа быць зьменшана напалову. Большага зьмяньшэньня ня бывае. — Гэта прымусіла ўтвораны пры Белар. Філіі Дзярж. Гімназіі імя Ю. Славацкага Бацькоўскі Камітэт зрабіць на агульным сходзе сваім 6 лістапада пастанову аб наладжаньні шырокае зборкі ахвяр бедным вучням і аб арганізацыі даходных прадпрыемстваў (вечарын, канцэртаў, лекцыяў і г. д.), каб сабранымі грашмі дапамагаць тым бедным вучням, каторыя або не папалі ў лік звольненых ад усяе ці ад паловы платы, або—хоць і звольнены ад паловы платы, ды ня ў сілах заплаціць і 55 зл. за паўгодзьдзе (з іншымі дадаткамі). Прэзыдыюм Камітэту і тыя бацькі, якія жывуць у Вільні, ўжо пачалі работу ў гэтым кірунку і ўладзілі 7 сьнежня канцэрт-вечарыну, з якое на дапамогу незаможным вучням атрымалі чыстага зыску 240 зл. і падзялілі іх паміж 17 вучняў, ра

# Калі і хто зрабіў найкарысьнейшыя вынаходы.

Нашы часы справядліва лічацца „векам вынаходаў". Даволі назваць такія запраўды-ж цудоўныя вынаходы, як самалёты і радыё, ня кажучы ўжо аб нячуваных дасягненьнях ваеннае тэхнікі і поступу практычнай мэдыцыны. Навука і тэхніка ў нашыя часы якбыццам задаліся мэтай зьдзейсьніць усе тыя фантастычныя лятуценьні, аб якіх кажуць нашыя народныя казкі.

Але навукова-тэхнічная думка чалавека сільней ці слабей працавала заўсёды. Дык вынаходы рабіліся ўсьцяж і ў ранейшыя часы, у даўнейшыя вякі. Трэба толькі наагул адзначыць, што вынаходы пачаліся ад часу, калі эўрапэйская думка пачала скідаць з сябе путы і цемру сярэднявечча, зьвярнуўшыся да дасьледаў над жывой прыродай. За гэтую любоў да сябе прырода пачала раскрываць чалавеку свае тайніцы, спаўняць яго загады. Бо-ж чалавек камандуе прыродай толькі ў меру таго, як пазнае яе законы.

Пачатак так-званага Адраджэньня, участцы— адраджэньня пахаванай сярэднявеччам клясычнай навукі і мастацтва старажытнай Грэцыі і Рыму, і распачынае беспярэрыўны ланцуг вынаходаў.

Так, компас,—сталёвая магнітная стрэлка, што кручіцца на вострым гваздку ды заўсёды становіцца так, што адным канцом паказывае на поўнач, другім на паўдзён, — вынайдзены ў 1185 г. Маючы такую прыладу, можна было сьмела пускацца ў далёкія плаваньні па моры, не баючыся страціць кірунак навет у непагоду, калі ня відаць ні сонца, ні зор.

Гарматы ўпяршыню паявіліся ў 1247 г. ў баёх пад Сэвільляй (у Гішпаніі). Як ведама, гарматы далі вялізарную, нябывалую сілу каралём, перетварыўшы даўнейшы фэодальны лад Эўропы, пабудаваны на „дзяржаўнай самаволі" магнатаў-абшарнікаў, у чыста монархічны.

Першыя акуляры зладзіў нейкі Аляксей дэ Спіна ў 1280 г. У тым жа годзе пачалі выраблядь шкляныя люстры; да гэнага часу люстры выраблялiся з палераванага мэталю.

Друк вынайшоў, як ведама, Гутэнбэрг у 1450 г. Можна сказаць, што вынаход друку даў народам вялікшую сілу, чым вынаход гарматаў—каралём. Таму шырэньне асьветы, сьведамасьці і вызвольных думак найвялік-

туючы іх ад выдаленьня з гімназіі за няўзнос платы. Але, каб забясьпечыць усіх тых вучняў, катарым бацькі ня могуць даць усяе патрэбнае на навуку сумы,—неабходна учасьце ў гэтай акцыі ня толькі бацькоў у Вільні, але й на вёсцы. Неабходна, каб нашы вяскоўцы—ня толькі бацькі, але і ўсе сьвядомыя беларусы, — распачалі зборку ахвяр на дапамогу нашым вучням. Хто можа даць нешта грашмі,—хай дае, колькі дуж. Хто ня можа даць грошы, давайце ахвяры збожам ці іншым дабром (яйкі, сала, сыры і г. д., палатно, посьцілкі ды інш.). Няхай тыя беларусы, якія разумеюць, нашто патрэбны нам інтэлігенты—сыны працоўнага народу, няхай займуцца гэткай зборкай і ўсё сабранае дабро прададуць на торгу, а грошы прышлюць у Камітэт на дапамогу ў навуцы гэтым будучым беларусам-інтэлігентам—некалі нашым заступнікам і абаронцам. — Апрача гэтага агульны сход бацькоў 6. XI. аднагалосна пастанавіў, што кожны бацька абязаны плаціць у Бацькоўскі Камітэт сталую складку—па 50 гр. ў месяц. Складка такая невялікая, што яе можа заплаціць нават найбяднейшы чалавек. Перасылаць складку можаце праз сваіх дзяцей—вучняў гімназіі. За мінулыя месяцы трэба прыслаць складку адразу, дый для Камітэту лепей атрымліваць надалей складку за колькі месяцаў наперад.

Бацькі! Выпаўніце сумленна гэты ваш сьвяты абавязак перад Вашымі дзяцьмі. Памятайце, што, даючы ахвяры і складкі, вы даеце самі сабе-ж! Кожны грош, сабраны Камітэтам, пойдзе на дапамогу незаможным вучням, якім нехапае грошаў на плату за навуку. Памятайце, што часам ад нястачы некалькіх злотых залежыць лёс вучня, катораму не ўдалося сабраць у вызначаны тэрмін усю патрэбную суму на аплату за навуку.

Вяскоўцы, бярэце прыклад з мястовых бацькоў, якія ўжо паказалі сваю рупнасьць аб сваіх і аб вашых дзецях. Зьбірайце ахвяры, шліце складкі акуратна, і вы забясьпечыце дзецям беларускім магчымасьць вучыцца ды ў будучыне аддзякаваць вам за гэта сваёй працай для ўсяго Беларускага Народу.

**Прэзыдыюм Бацькоўскага Камітэту.**

**УВАГА:** Асобы, якія захочуць узяцца за зборку ахвяр, павінны паведаміць аб гэтым Бацькоўскі Камітэт (Вільня, Вострабрамская 9), каторы прышле ім неабходнае дзеля гэтага пасьведчаньне.

# Дбай аб здароўе!

(*Прыказаньні практычнай гігіены і санітарыі*).

1. Ня ліж языком канвэртаў ані марак, заклейваючы пісьмо: на клею заўсёды шмат розных бактэрыяў заразы.
2. Ня сьлінь пальцаў, рахуючы папяровыя грошы, бо яны таксама рассаднік заразы.
3. Ня еш фруктаў ані гародніны, не памыўшы іх у вадзе.
4. Не перагрызай зубамі шнуркоў.
5. Ня пі вады, не спаласнуўшы кружкі. Асабліва ў месьце ня пі проста з крану; няведама, хто піў перад тым: можа хворы.
6. Не давай дзецям цалаваць сабаку, ката ці іншую дамовую жывёлу: могуць набрацца страшэнных рабакоў або пархаў.

---

шых правадыроў чалавецтва шляхам друку дапамагло дасьпеўшым духова да самаўраду народам зваліць панаваўшых над імі каралёў.

Першую вадзяную турбіну зладзіў адзін з найвялікшых геніяў Адраджэньня Леонардо да Вінчы.

Вынайшоў павялічываючыя шклы дый збудаваў першы мікраскоп у 1590 г. Янсэн, а першы тэлескоп блізу адначасна галяндзкі оптык Ліпэрсбэй і знамяніты італьянскі фізык і астраном Галілей, якога па загаду „сьвятое інквізыцыі“ пакаралі сьмерцяй за тое, што даводзіў, „бытцам Зямля круціцца навакол Сонца“, але ня Сонца навакол Зямлі, як вучыла каталіцкая царква...

Матач прыстасабіў да гадзіньніка, каб мераць час, знамяніты матэматык Гюйгенс у 1656 г.

Першы алавік з графіту, які ўжываюць і цяпер, зьявіўся ў Англіі ў 1665 г.

У 1690 г. англіец Папін зрабіў кацёл, у якім можна было выкарыстаць сілу вадзяное пары, як жарала энэргіі руху. У хуткім часе пасьля гэтага зьявілася паравая машына, якая зараз жа была выкарыстана дзеля шыбкага руху па сухапуцьці ды па вадзе—на паравозе й параходзе, а таксама павялічыла начувана прадукцыю, зьбіраньне багацьцяў. А разьвіцьцё фабрыкі, згуртаваўшы ў месты вялізарныя лічбы работнікаў, распачала новую эру у соцыяльный гісторыі чалавецтва.

Толькі ў 1747 г. вынайдзены спосаб масавага вырабу цукру з буракоў. Раней цукер быў такой дарагой рэдкасьцю, што фунт цукру пасылаў у дар кароль каралю—побач з вырабамі з золата і дарагіх каменьняў.

У 1750 г. немец Мэлінгер вынайшоў (на згубу чалавецтва!) спосаб найтаньнейшага вырабу гарэлкі з бульбы.

У 1785 г. англіец Конрайт вынайшоў механічны ткацкі варштат, які і распачаў тую новую эру ў фабрычна-работніцкім жыцьці новага места, аб якой сказана вышэй.

У 1815 г. фізык Дэві вынайшоў бясьпечную лямпу дзеля працы ў вугальных шахтах (не выклікаючую выбухаў лёгказапальных газаў), што дапамагло шырокаму і шпаркаму разьвіцьцю гэтай найважнейшай галіны прамысловасьці ў жыцьці фабрычназаводзкага места.

Першая машына да вязаньня панчохаў зроблена ў 1828 г.

Сталёвыя пёры паявіліся ўпяршыню ў Англіі ў 1830 г.

Так-званыя шведзкія запалкі зьявіліся

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Аб'езды тэатр.** Аб'езды тэатр, з'арганізаваны пры ТБА пад кіраўніцтвам грам. А. Міхалевіча, пасьля ўдачнага выступленьня ў Ашмяне рыхтуецца да далейшае працы. У найбліжэйшыя дні тэатр выедзе ў Маладэчну і Вялейку, дзе будзе ставіць дзьве п'есы: „Дзядзьку Якуба“ Аляхновіча і спэцыяльна перакладзеную п'есу расейскага аўтара Дымава „Слухай Ізраіль!“.

**Юбілей Коласа і Купалы.** 50-лецьце Якуба Коласа і Янкі Купалы віленскае беларускае грамадзянства сьвяткавала вельмі ўрачыста. Як ужо ведама з газэт у Вільні нядаўна ладзілі супольна сьвяткаваньне беларускія хадэкі і кіраўнікі Таварыства Беларускае Школы ў Вільні, а 19-га сьнежня ўладзіла юбілейны абход беларуская філія дзяржаўнае гімназіі ім. Ю. Словацкага (у якуюператварылася былая прыватная беларуская гімназія). Школьны абход быў зладжаны выключна вучнёўскімі сіламі з багатай праграмай. Паміж іншым, быў адыграны на сцэне II-гі акт драматычнае поэмы Купалы „Сон на кургане“. Моладзь беларуская выявіла пры гэтым глыбокую пашану да абодвух юбіляраў і зразуменьне духа творчасьці іх, што паказалі ўступная прамова вучня Дасюкевіча і рэфэраты — аб Купале вучня Насекайлы і аб Коласе вучаніцы Марцінчык.

**Неадзначаны юбілей.** Апрача Коласа і Купалы сёлета скончыў 50-ты год жыцьця вельмі популярны ў Савецкай Беларусі драматычны пісьменьнік і сцэнічны дзеяч Уладыслаў Галубок (праўдзівае прозьвішча: Голуб). Віленскае грамадзянства неяк не адгукнулася на гэты юбілей, а тымчасам юбіляр зусім заслужыў на больш уважлівасьці да сваей асобы. Галубок належаў да групы „вашаніўцаў“ і ад 1908 г. зьмяшчаў свае апавяданьні і вершы ў „Нашай Ніве“, а пасьля і ў іншых часопісях. Шмат пазьней, выступаючы ў беларускім аматарскім тэатры ў Менску, пачаў пісаць драматычныя творы — „Апошняе спатканьне“ і шмат іншых. У 1923-24 г. г. — ужо за існаваньня Савецкае Беларусі — Галубок з'арганізаваў беларускі аб'езды тэатр і да сяньняшняга дня робіць вялізарную работу, заглядаючы з сваей трупай да самых глухіх куткоў Беларусі. Тэатр ягоны з часам быў ператвораны ў дзяржаўны, а Галубок атрымаў ад ураду Савецкае Беларусі тытул народнага артысты.

Пажадаем юбіляру хаця у канцы памірающага году сіл і энэргіі да далейшае карыснае працы яго.

**15-лецьце Беларускага Навуковага Т-ва.** 26-га студня 1933 году мінае 15 гадоў ад закладзінаў—з ініцыятывы Івана Луцкевіча—Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні (26 студня 1918 году). У сувязі з юбілеем Урад Т-ва рыхтуе да друку „Гадавік“ з багатым зьместам і з чысьленымі ілюстрацыямі. Першы аркуш ужо ў наборы.

Паміж іншым, асобная стацьця ў „Гада-

---

ў 1848 г. Але ў нашай вёсцы яны толькі зусім нядаўна выціснулі ведамыя „сернікі“ (з фосфорам і серкай), якія вынайшлі два немцы ў 1833 г.

Гума, якая цяпер так шырока ўжываецца, асабліва ў аўтамабілях, адкрыта была толькі ў 1842 г.

Каля паловы мінулага стагодзьдзя пачынаюцца вынаходы ў галіне электрыкі, якія адчыняюць навейшую эру ў разьвіцьці навукі і тэхнікі, нячуванымі дабрадзействамі якіх мы карыстаемся цяпер. Пералічыць іх—дык ня хопіць месца на нашых балонках.

У заключэньне трэба аднак дадаць, што такое здавалася-б, дабрадзейнае для чалавецтва разьвіцьцё навукі і тэхнікі мае аднак свой адваротны цёмны бок. Дзеля таго, што ў галіне соцыяльнага і моральнага разьвіцьця чалавецтва неяк усьцяж адстае ад свайго поступу ў галіне навукі і тэхнікі, вельмі часта гэтыя магутныя, цудоўныя, дабрадзейныя самі ў сабе вынаходы ідзе ўжываюцца на шкоду чалавецтву і на крыўду, каб не сказаць навет на пагібель. Адсюль адбыліся запраўды ж катастрафічнае разьвіцьцё ваеннай тэхнікі прыладаў масавага забойства людзей, або йшчэ тачней: самагубства чалавецтва. Адсюль і тыя крызісы, шкоднасьць якіх адчуваем мы ўсе асабліва цяжка цяпер. Не дапаўняная роўналежным разьвіцьцём грамадзкай моральнай солідарнасьці, зьяўляючыся, наадварот, прыладай соцыяльнага панаваньня ў сучасным грамадзянстве і міжнародавым жыцьці, высокая навуковая тэхніка, замест падыймаць дабрабыт людзкасьці, руйнуе яго.

Ня кажучы ўжо аб войнах, возьмем прыклад яшчэ дзіўнейшы. Як ведама, адной з прычынаў нябывалага крызісу зямляробства на ўсім сьвеце зьявілася, як гэта ні дзіўна, тасаваньне высокай навуковай тэхнікі да зямляробства ў паўночнай Амэрыцы. А тое масавае паленьне кавы, кукурузы, цукру на вялізарных плянтацыях прамысловых „каралёў“ Паўдзённай Амэрыкі, якое адбываецца штогодна, каб... ня зьнізіць цэнаў на гэтыя вырабы, усе гэтай зьявішча таго-ж парадку.

Можна думаць аднак-жа, што новае стагодзьдзе, якому рубам паставіў папярэдні век найцяжэйшае соцыяльнае пытаньне, здолее вырашыць яго—шляхам нейкіх новых вынаходаў у гэтай галіне, наагул страшэнна, як мы сказалі, адстаўшай ад поступу навукі і тэхнікі.

віку“ пасьвячаецца памяці вялікага беларускага дзяржаўніка і гарачага патрыота Льва Сапегі ў сувязі з 300-лецьцем яго сьмерці.

**Забава для наймяншых.** Як ведама, вучні старэйшых клясаў ладзяць даволі часта ў гімназіі вечарыны, лекцыі і г. д. Наадварот, вось ужо колькі гадоў, як для наймалодшых клясаў нічога не рабілася. Дык асабліва горача трэба прывітаць зладжаную на сьв. Мікалая (ст. ст.) забаву для вучняў II і III клясы беларускае гімназіі (філіі) Прыемна было глядзець, як бойка дэклямавалі гэныя мальцы вершы на сцэне ды адыгралі ўсцэнізаваную байку А. Міцкевіча „Воўк і сабака“. Пасьля зьявіўся ў салі „сам“ сьв. Мікола з цэлай карзінай падарункаў для дзяцей, а ў раздачы падарункаў памагалі яму Воўк і Сабака ў адпаведных касьцюмах. На заканчэньне адбыўся скромны пачастунак для дзяцей. Вучыцялём, якія зладзілі гэту забаву, належыцца шчырая падзяка за радасьць, зробленую дзецям.

## Дамінік Сямашка.

Як падаюць літоўскія газэты, у Коўне памер гр. Дамінік Сямашка, былы міністар беларускіх спраў у складзе літоўскага ўраду.

Нябожчык у пачатку дзевяцісотных гадоў жыў заграніцай і працаваў у лёнданскай друкарні ППС, дзе складаў уласнаручна рэвалюцыйныя брашуры ў беларускай мове для Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады (у 1903 г.). Перад выбухам Сусьветнае вайны асеў у Вільні і ў часе нямецкае акупацыі, займаючы становішча начальніка пажарнае каманды м. Вільні, прымаў учасьце ў беларускіх грамадзкіх арганізацыях. Дэлегаваны разам з іншымі беларускімі дзеячамі ў склад літоўскае Тарыбы ў 1918 годзе, быў запрошаны літвінамі на становішча міністра беларускіх спраў, але на гэтым становішчы ня здолеў захаваць добрых адносінаў з беларускім грамадзянствам і праз нейкі час вышаў з складу літоўскага ўраду. Апошнія гады займаўся справамі пажарніцтва ў Літве.

## Б. С. С. Р.

**Праект спрашчэньня беларускага правапісу.** Як падае „Зьвязда“ з 25. XI. 32 г., Інстытут мовазнаўства Беларускай Акадэміі Навук у сучасны момант працуе над выкананьнем раду важных заданьняў. Заканчываецца складаньне новага расейска-беларускага слоўніка, які будзе мець 80-90 тысяч слоў. Слоўнік выйдзе ў 2-х тамох. Першы том да літары „п“ апрацаваны і здадзены ў друк, другі том будзе зданы выдавецтву ў сакавіку 1933 г. Адначасна апрацавана і здадзена ў друк тэхнічная тэрміналёгія.

Асабліва буйнай работай трэба лічыць складаньне праекту спрашчэньня беларускага правапісу.

Праэкт правапісу выйдзе з друку у бліжэйшы час і будзе разасланы па школах, выдавецтвах, рэдакцыях газэт і іншых арганізацыях для абмяркаваньня. Пасьля гэтага праэкт разам з папраўкамі будзе разгледжаны на ўсебеларускай мовазнаўчай канфэрэнцыі-Інстытут ставіць адной з сваіх асноўных задач у далейшым — складаньне тэрміналёгічных слоўнікаў ва ўсіх галінах навукі і тэхнікі. Ужо выпрацаваны праэкт тэрміналёгіі па эканоміі, дэндролёгіі і хіміі.

**Усебеларуская спартакіяда.** Як падае „Зьвязда“ з дня 19. XII 1932 г., у БССР шырака разгарнулася падрыхтоўка да Усебеларускай зімовай спартакіяды, якая будзе праведзена ў Менску з 25 лютага да 2 сакавіка 1933 г. Мэтаю спортакіяды зьяўляецца выяўленьне лепшых спартсмэнаў (фізкультурнікаў) у БССР ва ўсіх відах спорту, якія ўваходзяць у праграму зімовага сьвята.

У спартакіядзе прыймуць удзел усе раёны БССР. Для падбору удзельнікаў у Усебеларускай спартакіядзе ва ўсіх раёнах БССР праводзяцца мясцовыя спартакіяды; пераможцы будуць прыймаць удзел у сьвяце Усебеларускага спорту.

Абвешчаны ўсебеларускі конкурс на лепшую фізкультурную інсцэніроўку, сьпевы, скокі і г. д.

У ўсебеларускай спартакіядзе прыйме ўдзел больш 12,000 спортсмэнаў.

**Вялікія залежы мінэральнага сырцу ў Бабруйшчыне.** Бабруйская геолёгічная партыя геолёгічнага інстытуту БАН пад кіраўніцтвам С. Маляровіча выяўлены ў Бабруйскім раёне, у ваколіцах вёсак Ахоцічы і Навасёлкі, багацейшыя залежы фасфарытаў. Умовы эксплёатацыі месцанараджэньня вельмі спрыяючыя.

Апрача фасфарытаў знойдзены значныя залежы сьнежна-белых кварцавых і зялёных кварцава-гляўкітавых пяскоў, ў некалькіх пунктах выхады белай крэйды.

Такім чынам бабруйскі раён можа заняць пачэснае месца ў фасфарытна-тукавай і шкляной прамысловасьці.

**Каналізацыя ў Менску.** Як падае „Сав. Беларусь“ з 24. XI. 1932 г., — Менск каналізуецца. У гэтым годзе ўкладзена звыш 1000 мэтраў труб. У каналізацыйную сетку уключана 1000 дамоў.

## У Літве.

**Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва ў Літве.** Зноваванае сёлета Т-ва гэтае разьвівае значную актыўнасьць як у Коўне, так і на правінцыі, дзе адчынены ўжо некалькі аддзелаў Т-ва. У Коўне Т-ва зладзіла адзін канцэрт-баль і два спэктаклі; тамсама адбыліся беларускія канцэрты і спэктаклі ў Мусьніках, Бразэлях і інш. Т-ва мае свой хор, начале якога стаіць гр. А. Матач. — У Коўне-ж ад мая месяца існуе закладзены Т-вам

беларускі клюб пад назовам „Беларуская Хатка".

**Студэнты-беларусы арганізуюцца.** Паводле інфармацыі „Бел. Шк. у Латвіі", у Коўне арганізуецца Беларускі Студэнцкі Гурток. Статут ужо апрацованы. Лічба студэнтаў-беларусаў у Коўне пачынае ўзрастаць затым, што туды едуць і студэнты з Латвіі, дзе прыймо у вышэйшыя школы цяжэйшае.

## У Латвіі.

**Падвойны юбілей.** У Рызе і Дзьвінску адбыліся ўрачыстыя абходы 50-лецьця Я. Коласа і Янкі Купалы.

У Рызе абход быў наладжаны 29 і 30 кастрычніка. Першы адбыўся ў салі Беларускае Гімназіі (прыватнае) на Маскоўскім форштаце, другі — ў старым горадзе ў салі „Вулей", з'арганізаваны супольна Бел. Культ.-Асьв. Т-вам „Беларуская Хатка" і Беларускай Вячэрняй Школай для дарослых. Апошні быў пасьвячоны спэцыяльна Коласу. З лекцыямі на абодвух выступаў гр. К. Езавітаў. У праграме былі дэклямацыі, хор і сцэнічнае прадстаўленьне.

20-га лістапада ўрачыста адсьвяткавала 50-лецьце Янкі Купалы Дзьвінская Беларуская Гімназія (дзяржаўная). Рэфэрат аб Купале быў прачытаны вучаніцай Л. Чаркоўскай, пасьля чаго вучні-ж адыгралі п'еску Купалы „На папасе", а хор вучнёўскі прапяяў рад беларускіх песьняў, ды былі дэклямаваны вершы юбіляра.

**Агульны Сход Т-ва Беларускага Народнага Тэатру ў Латвіі.** 1-га кастрычніка ў Рызе адбыўся Агульны Сход Т-ва Беларускага Народнага Тэатру ў Латвіі. З справаздачы высьветлілася, што Т-вам у мінулым годзе было пастаўлена дзесяць сьпэктакляў, з якіх тры прэм'еры: „Пашыліся ў дурні", „Зжагары за[illegible]ідэю" і „Хлебароб па амэрыканску". Праца па развучваньню п'ес праходзіла пад кіраўніцтвам артыстаў Расейскае Драмы — Ю. дэ-Бура і У. Катенева. Пасьля дакладаў сход перайшоў да разгляду бюджэту Т-ва на наступны год. Бюджэт складзены ў агульнай суме 8717,78 латаў. Т-ва разьлічае на дапамогу Культурнага Фонду (500 лат.) і дзяржаўную (3000 лат.), але магчымасьці атрымаць гэтыя дапамогі надта праблематычныя. Цяжкі грашовы стан Т-ва змушае сяброў артыстычнага калектыву працаваць безграшова. Усе выдаткі абмежаны. Сход ухваліў увайсьці ў кантакт з жыдоўскім „Рабочым Тэатрам", каб супольна карыстацца памешканьнем памянёнага Тэатру. У справе новых пастановак высьветлілася, што намячаюцца гэткія п'есы: „Хам", „Дзядзька Якуб", „Апошняе спатканьне", „Ружовае паўціньне".

У Цэнтральнае Праўленьне абраны: старшынёй — гр. В. Бароўская-Пігулеўская, намесьнікам старшыні — В. Даўгая, скарбнікам—дырэктар Рыжскага Беларускага Народнага Тэатру Я. Камаржынскі, сэкратаром — У. Гусарэвіч, намесьнікам дырэктара — Я. Каяла.

...тковаваньне 50-х угодкаў Уладыслава Галубк... ладзіць 30 га сьнежня Рыская Беларуская Гімназія. Дзеля таго, што на 1932 г. прыпалі 80-тыя ўгодкі першае беларускае тэатральнае пастаноўкі, дык адначасна будзе адсьвяткаваны юбілей 80-цігодзьдзя Беларускага Тэатру. Рэфэрат на тэму „Беларуская тэатральная праца і Уладыслаў Галубок" — прачытае вучыцель гімназіі гр. К. Езавітаў.

**Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва** пачало збор грошы на выдавецкі фонд на выданьне беларускае народнае творчасьці, сабранае ў межах Латвіі.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Сойм.** 6/XII узнавілася пасьля месячнага перарыву праца Сойму. Бюджэтная камісія Сойму разгледзіла ўжо бюджэты п. Прэзыдэнта Рэспублікі, Рады Міністраў, Сойму і Сэнату. У Сэнаце вялікую прамову аб гаспадарчым палажэньні дзяржавы і аб гаспадарчай праграме ўраду сказаў прэм'ер Прыстор.

Не хаваючы праўды аб цяжкім палажэньні краю, ён знайшоў падставы для бадзёрнага пагляду на будучыню.

**Прысуд у справе ўкраінскіх тэрорыстаў.** 22 сьнежня ў Львове закончыўся працэс украінскіх тэрорыстаў, зрабіўшых напад на пошту ў Гарадку Ягелёнскім. Суд прызнаў усіх трох абвінавачаных: Жураковскага, Данылышына і Біласа вінаўнымі і засудзіў усіх на павешаньне. П. Прэзыдэнт замяніў Жураковскаму кару сьмерці на 15 гадоў катаргі. Данылышын і Білас 23 сьнежня павешаны. Усе належалі да Украінскай Ваеннай Арганізацыі.

**Надужыцьці з манапольнай сольлю.** Польскае міністэрства унутран. спраў загадала, каб адміністрацыйныя ўлады спраўдзілі, ці соль прадаецца на вёсцы запраўды паводле ўсталенай таксы. Бо-ж улады даведаліся, што соль прадаецца на правінцыі часам утрая даражэй проці таксы. Трэба, каб нашыя чытачы пільнавалі крамнікаў, якія, ведама-ж, разьлічаючы на цемру вясковых спажыўцоў, дзяруць з іх, колькі хочуць. Трэба падаваць весткі аб такіх выпадках у сваю газэту.

## Загранцай.

**Фатальная „рата".** 15 сьнежня ўсе дзяржавы былае проці-нямецкае коаліцыі павінны былі заплаціць Амэрыцы чарговую рату—ў лік оплаты ваенных даўгоў. Але заплацілі толькі, здаецца, Англія ды Чэха-Славакія, дый то — з страшэнным высілкам. Францыя, Польшча, Бэльгія, Югаславія, Румынія і інш. адмовіліся ад оплаты, пазываючыся на крызіс. Усе даўжнікі Амэрыкі

трэбуюць ад яе грунтоўнага перагляду справы ваенных даўгоў, кажучы, што якраз сама Амэрыка дапамагла Нямеччыне выкруціцца ад абавязку плаціць адшкадаваньні, з якіх эўрапэйскія саюзьнікі маніліся сплачываць ваенныя пазыкі Амэрыцы.

**Водгукі ў Францыі.** У Францыі „фатальная рата“ нарабіла вялізарнага гуку і клапотаў, бо ж не толькі выклікала канфлікт з Амэрыкай, але і зваліла габінэт Эрыё. Новы габінэт злажыў сябра тое ж партыі „радыкал-соцыялістаў“, толькі значна лявейшага крыла, Поль (Павал) Бонкур. Габінэт Бонкура падтрымліваецца ў парлямэньце усей яго лявіцай, за выняткам толькі камуністаў. Спадзявацца нейкіх соцыялістычных рэформаў ад п. Бонкура няма падставы, бо „соцыялізм“ радыкалаў—чыста буржуазнага зьместу,—але, як прадбачыць польская прэса, трэба баяцца ад новага, бліжэйшага да соцыялістаў, ураду Францыі большай прыхільнасьці да нямецкіх дамаганьняў у справе перагляду польска-нямецкае граніцы.

**Нямеччына.** У Нямеччыне, пасьля адстаўкі ўраду фон-Папэна, утварыўся новы габінэт, які апіраецца ізноў не на парлямэнт, а на давер прэзыдэнта Гіндэнбурга. На чале ўраду стануў ген. Шлейхер, які, як кажуць, фактычна кіруе нямецкай палітыкай ад самае сьмерці Штрэзэмана. Ген. Шлейхер здолеў вельмі спрытна ўхіліць скліканьне парлямэнту, у якім яго габінэт бязумоўна зваліла-б большасьць гітлераўцаў і камуністаў. Абяцаўшы пэўныя „падачкі“ Цэнтру і соцыял-дэмакратам, ген. Шлейхер здабыў іх „цікае падтрыманьне“ і цяпер распачаў праводзіць расклад у партыі Гітлера, які дагэтуль яшчэ лятуціць аб найвышэйшай уладзе ў Нямеччыне.

**Канфэрэнцыя ў справе разбраеньня.** Нямеччына, дабіўшыся блізу поўнага спаўненьня сваіх дамаганьняў у справе „прынцыповага прызнаньня ей раўнапраўя ў збраеньнях“, вярнулася на канфэрэнцыю. Цяпер, як заявіў ген. Шлейхер, задача немцаў — „напоўніць гэтую пустую фразу практычным зьместам“, інакш кажучы: дабіцца магчымасьці павялічываць свабодна збраеньні, ці — поўнага скасаваньня Вэрсальскага трактату.

Польская прэса вельмі непакоіцца гэтай перамогай Нямеччыны, тым больш, што раўнапраўе прызналі Нямеччыне на канфэрэнцыі толькі 5 вялікіх дзяржаў, не запытаўшыся іншых суседзяў Нямеччыны, найбольш загрожаных з боку апошняй. Асабліва непакоіць Польшчу тое, што гэтая „пяцёрка“ вялікіх дзяржаваў, у тым ліку Нямеччына, мае застацца як сталая установа, якая мае „падрыхтоўваць“ для разбраенчае канфэрэнцыі ўсе справы, а фактычна будзе гэтыя справы вырашаць, ставячы канфэрэнцыю ў поўным складзе перад дакананымі фактамі сваіх пастаноў. Прымаючы пад увагу папсаваўшыяся неяк адносіны між Польшчай і Францыяй, можна справядліва баяцца прыкрых для Польшчы вынікаў такога палажэньня рэчаў.

**Новая змова проці Сталіна.** У Маскве адбыліся новыя масавыя арышты сярод найвышэйшых саноўнікаў чырвонае бюракратыі —у сувязі з выкрытай ГПУ новай „змовай“ на жыцьцё Сталіна. Ясна, што „выкрыцьцём змовы“ Сталін проста „зьнімае“ ўсіх сваіх канкурэнтаў на ўладу. Запраўды-ж, з старых камуністаў, супрацоўнікаў Леніна, не асталося пры Сталіне блізу ніводнага: ўсе або сасланы ў Сыбір ці ў Сярэднюю Азію, або высланы, як Троцкі, за граніцу. Апошнія весткі кажуць, быццам сьледзтва выкрыла запраўдную арганізацыю змовы ў арміі—на шырокі маштаб. У выніку—масавыя арышты сярод чырвоных камандзіраў арміі.

**На шляху да незалежнасьці Індыі.** У Лёндане закончылася трэцяя англа-індуская канфэрэнцыя ў справе апрацаваньня канстытуцыі для самастойнай „Саюзнай Індыйскай Дзяржавы“.—Англійскі ўрад мяніцца ўвесьці ў жыцьцё гэтую конституцыю ў працягу 3-6 гадоў, не зракаючыся цалком фактычнае ўлады ў Індыі і залежнасьці яе ад Англіі. Пакуль-што мае быць створаны Рэзэрвны Банк для Саюзнай Дзяржавы. У Індыі, як ведама, існуе шмат розных велічыні „незалежных“ дзяржавак, князі якіх ня хочуць далучацца да Саюзнай Інд. Дзяржавы, каб ня страціць сваей „сувэрэннасьці“. З другога боку, прыхільнікі Гандзі, барацьбіты за поўную незалежнасьць,—таксама выступаюць проці творанае англійцамі куртатае самастойнасьці. Дык шмат часу йшчэ будзе ісьці барацьба, у якой англійцы будуць выкарыстываць сваё палажэньне.

---

# Рада для гаспадароў.

Каб забясьпечыць садовыя дрэвы на зіму ад пашкоджаньня зайцамі, практычныя садаводы радзяць розныя спосабы. Найлепшым спосабам, безумоўна, ёсьць абвязваньне пня, але толькі не саломай, бо ў ёй лёгка могуць завясьціся мышы, а галінкамі яліны ці ялоўцу. Калі-ж гаспадар з тых ці іншых прычынаў ня можа ўсе дрэвы паабвязваць, то, каб забясьпечыць дрэвы ад зайцоў, можна ўжыць іншых спосабаў, з якіх найпрасьцейшым будзе наступны: перад тым, як пні дрэваў маюць быць пабелены вапнай, трэба да пабелу дабавіць пэўную колькасьць жоўці і такою мешанінаю пабяліць дрэвы. Як паказала практыка, так пабеленых дрэваў зайцы не чапаюць.

Апрача гэтага, многімі сьцьверджана, што калі да пабелу, якім беліцца хата ў сярэдзіне, дадаць жоўць, то дашчэнту зьнікаюць блашчыцы. Апошні паразыт вельмі дакучлівы, і яго можна амаль што ў кожнай хаце ў нашай вёсцы знайсьці, а дзеля таго радзім нашым селянам выпрабаваць гэты спосаб. **Х.**

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22

42917